


Фота: Каця Маскалёва



25 кастрычінкіа выйшаў тэрмін Народнага ўльтыматуму, і многія дзеячы і дзяячкі культуры, часам цэлыя калектывы, далучыліся да Агульнанацыянальнай забастоўкі. Адбываецца эскалацыя ціску, але свабоду думкі і творчасці ўжо не стрымаць. ***Беларускі фонд культурнай салідарнасці*** заклікаў усіх дзеячаў культуры далучыцца да Агульнанацыянальнай забастоўкі, а калегаў за мяжой – ладзіць акцыі салідарнасці, каб падтрымаць беларусаў маральна і фінансава. Па пытаннях ахвяраванняў у падтрымку беларускіх культурных дзеячаў просім звяртацца на старонку Фонда культурнай салідарнасці ў Facebook.

# 1. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ



26 кастрычніка быў затрыманы паэт і бард *Эдуард Акулін*, які стаяў у ланцугу салідарнасці ў Малінаўцы. 27 кастрычніка ягоную справу адправілі на перагляд,

Эдуард чакае суду і піша вершы:
*Націскаючы на курок,*
*не абдумваючы загаду,*
*ты апошні свой робіш крок, —*
*дык страляй, каб забіць Уладу!*

26 кастрычніка падчас мірных пратэстаў у Мінску была затрыманая актрыса *Алена Гіронак*, выканаўца галоўнай жаночай ролі ў фільме «Купала». Вечарам таго ж дня яе адпусцілі пасля складання пратакола.

**“КАЛІ МЯНЕ ПАВЯЛІ Ў БУСІК, НА ПРАХОДЗЕ ЛЯЖАЎ ЧАЛАВЕК. Я СКАЗАЛА, ШТО НЕ ПАЙДУ, ПАКУЛЬ ЯНЫ НЕ ПАДЫМУЦЬ ЧАЛАВЕКА. МЯНЕ ЎДАРЫЛІ ПА ГАЛАВЕ НЕКАЛЬКІ РАЗОЎ, ЗАЦЯГНУЛІ Ў БУС, РУКІ МОЦНА ЗАЦЯГНУЛІ ХАМУТОМ, ЗАЛАМАЛІ НАЗАД”,**

– АЛЕНА РАСПАВЯЛА АКАЛІЧНАСЦІ СВАЙГО ЗАТРЫМАННЯ РАДЫЁ СВАБОДА.



Фота: Радыё Свабода


Фота: Charter97.org

Уначы з 28 на 29 кастрычніка пры перасячэнні дзяржаўнай мяжы Беларусі памежнікамі быў затрыманы былы палітвязень і актывіст анархісцкага руху *Ігар Аліневіч*. У 2013 годзе за кнігу «Еду ў Магадан» Ігар Аліневіч атрымаў галоўную ўзнагароду і стаў першым лаўрэатам Прэміі імя Францішка Аляхновіча Беларускага ПЭН-цэнтра.
А ў 2016 годзе Аліневіч стаў лаўрэатам Нацыянальнай прэміі за абарону правоў чалавека імя Віктара Івашкевіча ў намінацыі «За асабістую мужнасць».Ігар знаходзіцца ў СІЗА КДБ. Яму прад'яўляюць абвінавачванне па арт. 289 "Акт тэрарызму" і арт. 295 "Незаконны абарот зброі" КК РБ.

29 кастрычніка невядомыя ў цывільным затрымалі *Галіну Казіміроўскую*, кіраўніцу хора *Concordia*, жонку *Змітра Вайцюшкевіча*.
2 кастрычніка Галіну аштрафавалі на 60 базавых велічынь (1620 рублёў).






*Пятро Марчанка*, гітарыст гурту *Irdorath*, быў затрыманы падчас нядзельнага маршу 1 лістапада.
2 лістапада яго пакаралі штрафам 15 базавых велічынь (405 рублёў).

# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, АДЛІЧЭННІ

У ***Гродзенскім абласным драматычным тэатры*** 27 кастрычніка да Агульнанацыянальнай забастоўкі далучыліся галоўны рэжысёр ***Генадзь Мушперт*** і рэжысёр-пастаноўшчык ***Сяргей Курыленка***, за што былі амаль адразу звольненыя. 29 кастрычніка з тэатра звольнілі яшчэ дзвюх акторак – ***Марыю Мялешка*** і ***Насту Мучко***.
Па стане на 30 кастрычніка з тэатра звольнілі ***12 чалавек*** – усе яны выступаюць за аднаўленне закону ў краіне, вызваленне палітзняволенных і новыя празрыстыя выбары. У тэатры адмененыя рэпетыцыі і спектаклі.

З Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета 28 кастрычніка звольнілі дырыжора ***Андрэя Галанава***, уладальніка медаля ім. Францыска Скарыны.
Меркаваная прычына – удзел у звароце культурных дзеячаў з нагоды ўльтыматуму.
У спіс на звальненне ўключаны і вядучы саліст тэатра, лаўрэат 16 міжнародных конкурсаў вакалістаў ***Ілля Сільчукоў***.
*“Я проста раблю тое, што мушу рабіць, тое, што мне падказваюць сэрца і сумленне. Вядома, непрыемна быць звольненым, ёсць няўпэўненасць у заўтрашнім дні, але што зробіш, цяпер усе беларусы ў такіх умовах. Маё сумленне мне даражэйшае за астатнія рэчы”*, – пракаментаваў ён сваё рашэнне ў інтэрв’ю Нашай Ніве.
Звольнілі таксама першую скрыпку аркестра ***Рэгіну Саркісаву***, якая падпісала ліст дзеячаў культуры, а таксама скрыпачку ***Алу Джыган*** і альтыстку ***Аляксандру Пацёміну***.

29 кастрычніка вядучы актор Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі ***Андрэй Новік*** звольніўся на знак салідарнасці з бастуючымі і рэпрэсаванымі.
Ён тлумачыць свой учынак тым, што не мае сілаў выходзіць на сцэну дзяржаўнага тэатра, калі яго калег *“у лепшым выпадку выкідаюць на вуліцу”*.


Рэгіна Саркісава, першая скрыпка

Фота: часопіс *Партэр*, rtbd.by

**У БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ АКАДЭМІІ МАСТАЦТВАЎ 27 КАСТРЫЧНІКА ВЫЙШАЎ ЗАГАД АБ АДЛІЧЭННІ ТРЭЦЯКУРСНІКА СЕРАФІМА ГАНІЧАВА, ПЯЦІКУРСНІКА АЛЯКСАНДРА ДАНІЛКІНА І ПЯЦІКУРСНІЦЫ КАРЫНЫ ЧАКУР, ЯКІЯ ЎДЗЕЛЬНІЧАЛІ Ў АКЦЫЯХ НА ЗНАК САЛІДАРНАСЦІ З АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЗАБАСТОЎКАЙ 26 КАСТРЫЧНІКА.**

Фота: Facebook

Прарэктарка ў навучальнай працы БДАМ *Алена Бохан* адмовілася падпісваць загад аб іх адлічэнні, пракаментаваўшы гэта тым, што яна “супраць адлічэння студэнтаў праз іх грамадзянскую пазіцыю”. Выкладчыкі і супрацоўнікі Акадэміі мастацтваў падпісваюць адкрыты ліст, у якім заклікаюць кіраўніцтва ўстановы спыніць перaслед студэнтаў і супрацоўнікаў, якія выказваюць сваю грамадзянскую пазіцыю, аднавіць адлічаных студэнтаў, не чыніць перашкодаў для мірных сходаў.


Фота: Радыё свабода

Канцэрт гурту *Litesound*, запланаваны на 13 лістапада ў КЗ “Мінск”, адмянілі праз “урадавае мерапрыемства”, якое нібыта мусіць там адбыцца ў гэтыя даты. Litesound актыўна выступаюць супраць гвалту, які чыняць сілавікі пасля выбараў 9 жніўня. Гурт падтрымаў “Народны ўльтыматум” і заклікаў сваю аўдыторыю ўстрымацца ад наведвання культурных установаў.

# 5. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ

27 кастрычніка ***звольненыя дзеячы і дзячкі культуры*** зладзілі флэшмоб у вялікай зале філармоніі. Перад канцэртам яны выйшлі да сцэны з плакатамі "Мы не рабы" і"Культура супраць гвалту", пасля чаго пакінулі залу пад скандаванне гледачоў «Жыве Беларусь!».

Вечарам таго ж дня пад Філармоніяй прайшла акцыя хору, які спяваў: «Мы разам, нас многа! За намі перамога!»

27 кастрычніка у Оперным тэатры ***артысты аркестра*** перад пачаткам спектакля ўсталі і зрабілі заяву перад публікай, што ім складана выступаць, калі ў краіне адбываецца гвалт. Большасць гледачоў падтрымала іх воклічамі "Жыве Беларусь!", і ***Вольны хор*** праспяваў у зале "Магутны Божа".

Зорка беларускай оперы ***Ілля Сільчукоў***, звольнены з тэатра за грамадзянскую пазіцыю, запісаў песню "Магутны Божа". Моцна і ўрачыста, як і мае гучаць гімн. І кліп з кадрамі пратэстаў атрымаўся проста фантастычны.

Расійская і беларуская спявачка ***Рыта Дакота***, якая раней выпусціла песню “Уходи”, адкрыта выказалася пра тое, што не будзе даваць камерцыйныя канцэрты ў Беларусі, пакуль краінай кіруе нелегітымная ўлада. *“Я веру, што мы заспяем з вамі гэтыя песні на стадыёне ў новай, вольнай і шчаслівай краіне. І веру, што гэта адбудзецца вельмі-вельмі хутка”*, – напісала музыка ў сваім Інстаграме.



Photo Credit: Telegram, Facebook

Ілля Сільчукоў, оперны спявак

Фота: Wikipedia



# НОЧ РАССТРАЛЯНЫХ ПАЭТАЎ

29 кастрычніка ў Курапатах, нягледзячы на арышт аднаго з арганізатараў і меркаваных вядоўцаў *Змітра Дашкевіча*, адбылася «Ноч расстраляных паэтаў».
Зміцер Дашкевіч, літаратар, актывіст, былы палітвязень, быў арыштаваны падчас акцыі 25 кастрычніка і асуджаны на 15 сутак арышту.

**"Я АДСЕДЖУ І ВЫЙДУ, А ВОСЬ ШТО БУДЗЕ З ВАМІ І ВАШЫМІ КАЛЕГАМІ, ВЫ ПРА ГЭТА ПАДУМАЙЦЕ", — СКАЗАЎ АКТЫВІСТ СУДДЗІ.**

Фота: Наша ніва

Photo Credit: Telegram, Facebook

## А ДВАРЫ НЕ ЗДАЮЦЦА – У ДАДАТАК ДА МУЗЫКІ, ЛЕКЦЫЙ І СПЕКТАКЛЯЎ ЯНЫ ЎСЁ БОЛЬШ НАПАЎНЯЮЦЦА ПАЭЗІЯЙ...





Фота: Каця Маскалёва, Ксенія Галубовіч,"Новы час"

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



Фота: opera.odessa.ua

Знакаміты беларускі дырыжор *Вячаслаў Воліч*, які быў прызначаны галоўным дырыжорам Нацыянальнага тэатра оперы і балета 24 жніўня, а 26 жніўня пакінуў сваю пасаду, цяпер знаходзіцца ва Украіне. Ён сказаў, што не збіраецца пакуль вяртацца ў Беларусь, бо трывожыцца за сваю бяспеку, а таксама выказаў салідарнасць са звольненымі з Опернага тэатра музыкамі:

*"Я цалкам салідарны з маімі калегамі, якія выказалі сваё стаўленне да таго, што адбываецца ў краіне. Гэта мужны ўчынак. У іх дзеяннях няма палітыкі. У грамадстве павінны быць розныя меркаванні. Любое развіццё грамадства немагчымае без кансэнсусу. Рэпрэссія ж паказваюць толькі слабасць улады"*, – сказаў Вячаслаў у інтэрв'ю tut.by.

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



*30 мастакоў* падтрымалі фонд культурнай салідарнасці. Напрыканцы лета адбыўся аўкцыён з працамі беларускіх мастакоў, арганізаваны домам *Vladey*, найбуйнешай пляцоўкай у Расіі, што займаецца продажам сучаснага мастацтва.
Значная частка сродкаў ад продажу карцін была накіраваная фондам для падтрымкі людзей, пацярпелых праз падаўленне пратэстаў у Беларусі.
*Беларускі фонд культурнай салідарнасці* паводле вынікаў аўкцыёну таксама быў падтрыманы і шчыра ўдзячны творцам за праяўленую салідарнасць.

29 кастрычніка ў Вільні прайшоў канцэрт салідарнасці ***#ЖывеБеларусь*** з удзелам беларускай опернай спявачкі *Маргарыты Ляўчук* і літоўскага піяніста *Юстаса Чапоніса*. Запіс канцэрта можна паглядзець па спасылцы
Любы ахвотны можа зрабіць ахвяраванне ў *Беларускі фонд культурнай салідарнасці*, які аказвае падтрымку звольненым у Беларусі дзеячам і дзеячкам культуры.



У Мастацкім музеі горада Мальмё прайшлі паэтычныя чытанні салідарнасці з беларускім рухам супраціву.
У перакладах на шведскую мову прагучалі вершы *Вальжыны Морт*, *Юлі Цімафеевай*, *Дзмітрыя Строцава*, *Ганны Комар* і іншых.
Мерапрыемства было арганізавана паэткай *Ідай Бёр'ель*, выдаўцом *Перам Бергстрэмам* і перакладчыкам *Мікаэлем Нюдалем*.




Арт: Яўген Шадко



***Шведскі Каралеўскі тэатр*** у Стакгольме ў рамках міжнароднага праекта тэатральнай салідарнасці “Пакрыўджаныя. Беларусь(сія)” прадставіў п’есу ***Андрэя Курэйчыка*** пра падзеі ў Беларусі.
Раней чыткі прайшлі ў Кіеве, Ганконгу, Антверпэне, Лондане, Лос-Анджалесе, Празе і тузіне іншых гарадоў.

*“Тое, што такія тэатры паказваюць актыўную падтрымку беларускага народу, беларускіх тэатралаў, тое, што на гэтай вядомай сцэне гучаць “Муры” і лунае вялізны нацыянальны сцяг, а паглядзець праўду пра нашы пратэсты прыходзяць міністры і палітыкі, – гэта вельмі важна”,* – дзеліцца ўражаннямі Андрэй Курэйчык.



Амерыканскі гурт *CocoRosie* разам з беларускай мастачкай і перформеркай *Ірынай Ануфрыевай* запісалі пратэсную песню "Go Away" і кліп на яе.
Прэм’ера адбылася 28 кастрычніка.



***Літоўскі нацыянальны тэатр оперы і балета*** запрасіў узяць удзел у сваёй пастаноўцы звольненых з Вялікага тэатра дырыжора ***Андрэя Галанава*** *(на фота)* і саліста ***Іллю Сільчукова***.



Фота: Youtube, bolshoibelarus.by

# 6. АЎКЦЫЁН У ПАДТРЫМКУ КУЛЬТУРНЫХ ДЗЕЯЧАЎ І ДЗЯЯЧАК

**ВЯДОМЫЯ БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫКАНТЫ ІГАР ВАРАШКЕВІЧ І ЮРЫЙ СТЫЛЬСКІ ВЫСТАВІЛІ СВАЕ ЛОТЫ НА ДАБРАЧЫННЫ АЎКЦЫЁН. КАБ ПАДТРЫМАЦЬ ПАЦЯРПЕЛЫХ ДЗЕЯЧАЎ І ДЗЯЯЧАК КУЛЬТУРЫ.**





Юрый Стыльскі прадае свой аўтапартрэт.

Лідар славутага гурта “Крама” - сваю рарытэтную гітару, на якой сачыніў культавыя песні.

**УСЕ СРОДКІ АД АЎКЦЫЁНУ БУДУЦЬ ПЕРАЛІЧАНЫЯ Ў БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ, СТВОРАНЫ З МЭТАЙ АКАЗАННЯ ПАДТРЫМКІ ПРАДСТАЎНІКАМ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ, ЯКІЯ ПАЦЯРПЕЛІ ЗА СВАЮ ГРАМАДЗЯНСКУЮ ПАЗІЦЫЮ.**

Фота: tuzinFM.by

Гэты матэрыял падрыхтаваны ў супрацы *Беларускім ПЭН-цэнтрам* і *Беларускім фондам культурнай салідарнасці*.







Інфармацыйны партнёр - партал TuzinFM.by




**КАНТАКТЫ**

E-mail: BFKS2020@protonmail.com
Telegram: @by_culture
Facebook: https://www.facebook.com/bcsfbel
YouTube: http://bit.ly/youtube-byculture

**ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

